


# Веcтki й Паведамленьнi

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9(679)**
**Верасень 2022 г.**


# Дзень Годнасьці ў Нью-Ёрку

У суботу, 20 жніўня, беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў адзначылі Дзень Годнасьці, дзень гневу і дзень сьлёзаў – дзень, на які выпадаюць першыя страчаныя жыцьці й першыя ахвяры рэпрэсіяў рэжыму ў Беларусі ў адказ на ўсенародны беспрэцэндэнтны ўздым супраць дыктатуры. Імрпрэза называлася "Свабодная Беларусь" і праводзілася пад лёзунгам "Support Freedom in Belarus!" У гэты дзень Беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў сабраліся ў Вашынгтон-Скўэр Парку на Мангэтане, каб на другую гадавіну пачатку ўсенароднага змаганьня ўзьняць свой голас супраць тыраніі, што набывае ўсё больш таталітарных рысаў, выказаць салідарнасьць з народам Украіны, супраць якога скарыстоўваецца беларуская тэрыторыя, і ўшанаваць памяць загінуўшых за гэтыя гады, а таксама выказаць падтрымку палітвязьням.

Імпрэза праводзілася пад мармуровай Аркай Вашынгтона, адным з сымбоаляў Нью-Ёрку. Удзельнікі трымалі беларускія нацыянальныя сьцягі, плякаты й выявы палітзьняволеных у Беларусі. Напачатку імпрэзы выступіла кіраўніца групы "Беларусы ЗША – Разам Лягчэй" сп-ня Ганна Шарко. Яна адзначыла, што сёнешні дзень асаблівы, Дзень Годнасьці, і ва ўсіх нас засталіся ў сэрцах падзеі двухгадовай даўніны, калі сотні тысяч беларусаў па ўсёй краіне выйшлі на вуліцы, каб запатрабаваць перагляду вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, якія былі сфальшаваныя, і змусіць узурпатара Лукашэнку сысьці зь незаконна займанай прэзыдэнцкай пасады. У адказ рэжым Лукашэнкі кінуў усе свае карныя сілы на падаўленьне народных пратэстаў і не спыніўся перад забойствам беларускіх грамадзянаў. Прамоўца прапанавала ўшанаваць хвілінай цішы памяць усіх беларусаў, загінуўшых падчас падзеяў восені 2020 году ў Беларусі, а таксама ўшанаваць памяць беларускіх дабрахвотнікаў, што змагаліся за Украіну, і сярод якіх былі ўдзельнікі пратэстаў 2020 году.

Прамоўца пасьля распавяла пра плян імпрэзы, які ўлучае давядзеньне сытуацыі ў Беларусі да амэрыканскага

*заканчэньне на бачыне 2*

## Дзень Годнасьці...

заканчэньне з бачыны 1

грамадзтва, да звычайных людзей, якіх многа сёньня тут, у Вашынгтон-Скўэр Парку. Прысутныя актыўна тлумачылі мінакам і адпачываючым у парку, шмат хто зь якіх падыходзілі пацікавіцца акцыяй, пра мэты акцыі й пра становішча ў Беларусі, што апынулася ў падвоенай блякадзе – тыранічнай дыктатуры й расейскай акупацыі.

Затым перад прысутнымі выступілі людзі, якія ведаюць каго-небудзь з палітзьняволеных, што апынуліся цяпер за кратамі ў Беларусі. Сярод іх журналіст Ігар Лосік, ягоная жонка Дар'я, сям'я якіх зазнала перасьлед ад уладаў, якія канфіскавалі ўсю маёмасьць і фактычна пазбавілі іх сродкаў нармальнага існаваньня. Было прапанавана сабраць матэрыяльную дапамогу для сям'і Ігара Лосіка, які цяпер знаходзіцца за кратамі. Ганна Шарко распавяла пра сваіх знаёмых Яўгена Бабака і Яўгена Юшкевіча, якія сталі палітвязьнямі. Адзін з выступоўцаў паведаміў, што калі за ім прыйшоў амон, то яго не знайшлі, бо яму ўдалося ўцячы, дык замест яго арыштавалі ягоную маці, якую кінулі за краты толькі праз факт сваяцтва, што ёсьць беспрэцэдэнтным нават для таталітарных дыктатураў.

Былі выступы таксама пра Яўгена Афнагеля, каардынатара "Эўрапейскай Беларусі", якога засудзілі разам з Паўлам Севярынцам на 7 год зьняволеньня, пра людзей, моцна пабітых і арыштаваных у Менску, пра жанчыну-праваабаронцу з Горадні, што зусім нядаўна трапіла за краты. Як адзначыла ў сваім эмацыйным выступе прамоўца з Горадні: "Нам могуць закідаць, што, маўляў, за мяжой людзей не арыштоўваюць за дэманстрацыі, і што гэта далёка, і што гэта ня мае ніякага ўплыву на дыктатуру. Але гэта – хіба адзін зь нешматлікіх спосабаў паказаць, што нашыя палітзьняволеныя не забытыя, што яны ў нашых сэрцах, што мы хочам дапамагчы ім усім, чым толькі можам".

Прадстаўнік БАЗА і онлайн выданьня "Беларус" сп. Міхась Чаропка падкрэсьліў, што цяпер асабліва важна, каб усе беларусы выступалі разам, каб узмацнялася салідарнасьць, каб нашыя палітычныя прэфэрэнцыі і падтрымка розных апазыцыйных лідэраў не падзяляла нас, хаця, нажаль, пэўныя тэндэнцыі ўжо накрэсьліваюцца. Нас яднае нешта значна больш істотнае і значна больш каштоўнае, чым тое, што нас падзяляе, і трэба заўсёды памятаць, чаму Беларусь дасюль паняволеная, і чаму мы апынуліся на выгнаньні".




Шмат хто з выступоўцаў падкрэсьліваў неабходнасьць ужываньня і разьвіцьця беларускай мовы, у тым ліку як культурнага коду, што застаўся нам ад продкаў, як адмысловага спосабу вызначэньня саматоеснасьці і як сродку змаганьня за вольную, незалежную, сапраўды беларускую Бацькаўшчыну. Таксама падкрэсьлівалася патрэба салідарнасьці, яднаньня і каардынацыі дзеяньняў беларускіх сілаў па ўсім сьвеце, для больш эфэктоўнай працы са сваімі ўрадамі, з тым каб яны мелі паўнейшую і аб'ектыўнейшую карціну таго, што адбываецца цяпер у Беларусі, і маглі лепш дапамагчы й падтрымаць рух за свабоду і дэмакратыю.

Затым прысутныя сабраліся на адной з палянаў у парку, каб бліжэй пазнаёміцца, абмеркаваць надзённыя справы і накрэсьліць будучыя акцыі ў падрымку змаганьня супраць дыктатуры й акупацыі, і ў падтрымку апазыцыйных сілаў у Беларусі.

**Віталь ЗАЙКА**

# Важнае навуковае выданьне пра беларускую эміграцыю

Нядаўна выйшла ў сьвет і стала даступнае ў электронным фармаце хіба адзінае пэрыядычнае выданьне, што займаецца гісторыяй беларускай эміграцыі й беларускай культуры па-за межамі Беларусі. Зь неабходнасьцю там утрымліваецца інфармацыя таксама і пра гісторыю беларускай культуры, беларускага народу таксама і на Бацькаўшчыне. Ходзіць пра Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, або проста ЗАПІСЫ, 42-гі выпуск якіх пабачыў сьвет сёлета. Выданьне бярэ пачатак ад 1952 году, і ад 2002 году яно рыхтуецца супольна ў Нью-Ёрку і ў Менску, асноўную працу выконваюць Натальля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч, якія таксама выступаць як аўтары артыкулаў. Сёлетні выпуск мае асноўнымі тэмамі гісторыю і дзейнасьць Скарынаўскай Бібліятэкі ў Лёндане (Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны) і гісторыю рэлігійнага жыцьця на эміграцыі.

Выпуск пачынаецца з сумнай ноты – нэкралёгам аднаго з сябраў рэдакцыйнай калегіі ЗАПІСАЎ сьв. пам. Янкі Запрудніка. Затым ідуць інтэрвію з прадстаўнікамі беларускай грамады Брытаніі, якія падкрэсьліваюць важнасьць Скарынаўскай Бібліятэкі як хіба адзінай афіцыйна зарэгістраванай бібліятэкі й сховішча архіўных матэрыялаў, зьвязаных зь Беларусьсю, па-за межамі Бацькаўшчыны, і адзначаюць ролю грэка-каталіцкіх сьвятароў Л. Гарошкі, Ч. Сіповіча, А. Надсана ў заснаваньні й разьвіцьці гэтага важнага культурніцкага цэнтру. Друкуюцца вялікія цікавыя падборкі эпісталярнай спадчыны нашых папярэднікаў, дзеячаў эміграцыі, са сьвятарамі, што адлюстроўваюць асноўныя памкненьні, настроі й клопаты беларускіх эмігрантаў сярэдзіны й другой паловы 20-га стагодзьдзя. Таксама цікавымі зьяўляюцца працы па гісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў 1944-1991 гг., і артыкулы пра паасобных рэлігійных дзеячаў на эміграцыі, у тым ліку такіх асобаў як Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, архімандрыт Строк, Уладыка Мікалай (Мацукевіч).

Надзвычай цікавымі зьяўляюцца публікацыі з архіву Антона Адамовіча, ліставаньні выбітных асобаў беларускай эміграцыі, а таксама вершы паэта Рыгора Данілеўскага – вось адзін зь іх, што падаецца надзвычай актуальным сёньня:

заканчэньне на бачыне 3

# Штаб-офіс”павінен зьнікнуць

“Штаб-офіс” заявіў пра стварэньне “пераходнага кабінэту”. Аднак справа зроблена так, што з так званага “пераходнага кабінэту” рэальна нічога ня будзе. Усё складзена насуперак правілам і нават насуперак здароваму сэнсу. Але з гэтым пагадзіліся самы ўдзельнікі “кабінэту”.

Абсурд выглядае наступным чынам. Склад “кабінэту” фармальна прызначае, зьмяняе і адклікае С. Ціханоўская (рэальна – групоўка вакол яе). Пры гэтым удзельнікі “кабінэту” пішуць Ціханоўскай справаздачы, а Ціханоўская будзе мець права “вета” (да гэтага трэба было дадумацца). Фінансаваньне разьмяркоўвае фармальна таксама Ціханоўская (рэальна – Франак Вячорка). Адбываецца яно так: “кабінэт” (альбо іншая структура) піша заяўку на грант “куды трэба”. “Адкуль трэба” – звоняць у “штаб-офіс” і пытаюць, ці можна даць. З “штаб-офісу” Франак адказвае “так” альбо “не”.

Сыстэма, дарэчы, клясычна мафіёзная, працуе як “палітбізнэс”. (Па зьвестках Дзярждэпартамэнта ЗША, у сыстэме грантавай дапамогі раскрадаецца 30% усіх грошай.) Выніковая дзейнасьць такой структуры (“кабінэту”) магчыма толькі тады, калі яна будзе мець сваё незалежнае фінансаваньне і калі “кабінэт” стане самадастатковай зьявай са сваім статутам (палажэньнем), кіраўніцтвам і вырашэньнем усіх кадравых і дзейных задач, а сувязь са “штаб-офісам” пяройдзе ў чыста намінальны характар.

Некаторыя людзі толькі цяпер заўважылі, што “штаб-офіс” пабудаваны па прынцыпу падстаўной вэртыкальнай сыстэмы з падстаўным аўтарытарызмам, які разыгрываецца ўжо ня толькі групоўкай, але і самой Ціханоўскай. (Ёй такая роля і жыцьцё спадабаліся.) Першапачатковая прамаскоўская ідэалёгія і палітыка гэтай агентурнай групы ў сутнасьці не зьмянілася, нягледзячы на кардынальныя перамены палітычных абставінаў (расейская акупацыя Беларусі, маскоўскі напад на Ўкраіну). Групоўка па-ранейшалму стаіць не за выбары парлямэнту, а за выбары прэзыдэнта Беларусі па лукашысцкім заканадаўстве. Яны супраць вяртаньня законнай Канстытуцыі 1994 году, хочуць навязаць новую прамаскоўскую канстытуцыю.

Усе гэтыя маніпуляцыі павінны абавязкова прывесьці да ўлады чарговага прарасейскага “прэзыдэнта” (тыпу Бабарыкі) з абсалютнымі паўнамоцтвамі ўлады. Тады каляніяльны лукашызм пойдзе на другі круг пад маскай прамаскоўскай “дэмакратыі” і пэрспэктывай настойлівай “інтэграцыі” з Расеяй (усе ж лукашысцкія “дамовы” з Масквой пакінуць). (Па вялікаму кошту групнікам не пра тое трэба б было гаварыць, бо цяпер праблема ў тым, каб дапамагчы Ўкраіне разграміць расейскіх акупантаў і збавіцца ад акупацыі Беларусі. Ад гэтага ўсё залежыць. А яны тут за лукашысцкія законы чапляюцца, ад якіх тады пылу не застанецца. Але такая публіка.)

Важна ўбачыць, што “штаб-офіс” з прычыны сваёй заганнай і чужой палітычнай установкі не рэфармуецца (гэтак жа, як не рэфармуецца прамаскоўская сыстэма ўлады Лукашэнкі). Такі “штаб-офіс” мусіў бы зьнікнуць з мапы беларускай палітыкі. Тут аб’ектыўная неабходнасьць, бо шкода ад яго ўвесь час павялічваецца. Ён тармозіць усе беларускія грамадзка-палітычныя працэсы, нават зрухі ў самым сабе (маргіналізм Цапкалы тут ня маецца на ўвазе, гэта поўны апэндыкс).

Аднак дзеля расчысткі дарогі нацыянальнага разьвіцьця ад сурагату і шкодных сіл мусіць быць рэальная беларуская нацыянальная сіла. Аб гэтым трэба клапаціцца беларусам.

Нацыянальна-вызвольны рух “Вольная Беларусь”, які быў моцна пагромлены рэжымам у Беларусі, вырастае цяпер зьнізу. Ён фармальна яшчэ не ўвайшоў у сілу. Але ў пэрспэктыве – толькі тут, толькі на гэтым шляху можа стаць нацыянальная будучыня Беларусі.

*14 жнівень 2022 г.*

# Нацыянальны шыбалет

Для ўкраінцаў цяпер гэта адказ на пытаньне : “ЧЫЙ КРЫМ?” Усе ворагі Ўкраіны на гэтым пытаньні паляцца імгненна, бо яно вымагае адказу па сутнасьці.

За часы савецкай акупацыі Чэхаславаччыны ў 1968 годзе нацыянальны шыбалет для грамадзянаў акупаванай краіны гучэў так: “СВАБОДА ЁСЬЦЬ?” Пытаньне без варыянтаў.

8-9 жніўня, праглядаючы выступы пярэстай публікі з асяродзьдзя групоўкі каля Ціханоўскай, я пачуў сэнтэнцыю: “Расія нам не враг”. Хтосьці папляскаў у ладкі і ніхто не супярэчыў. І тут я ўбачыў (гэта ж так проста) – вось ён беларускі нацыянальны шыбалет (ён вынесены ў прынцып “Вольнай Беларусі”, п. 4), па якім усё мераецца ва ўмовах расейскай акупацыі Айчыны, зьнішчэньня Беларускай нацыі, расейскага фашызму і маскоўскай вайны. Пытаньне: “РАСЕЯ ВОРАГ?” Па адказе будзе зразумела, хто перад намі.

*18 жнівень 2022 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

**заканчэньне з бачыны 2**

*У друзы рыньце, вежы*
*Шчарнелага Крамля!*
*Кляну цябе бязьмежна,*
*Праклятая Масква.*
*Ад краю і да краю,*
*Праз пушчы і палі*
*Ўсе ад цябе ўцякаюць*
*На ўсе канцы зямлі.*
*Народы ты украла,*
*Цямней зрабіўся дзень.*
*Ты ночай чорнай стала*
*І прорвай для людзей.*
*Ня быць табе заўсёды,*
*Ня цьмець із веку ў век!*
*Шлях сьветлае свабоды*
*Пазнае чалавек.*




У разьдзеле “Публікацыі” прадстаўленыя разнастайныя артыкулы па гісторыі эміграцыі, ад агляду беларускай дзейнасьці ў Латвіі й Чэхіі да новага аналізу кнігі Н. Вакара “Беларусь” і аналізу жыцьця й дзейнасьці Леаніда Галяка, а таксама развагаў над спадчынай Уладзімера Караткевіча і Вашынгтана Ірвінга.

У разьдзеле “Ўспаміны” публікуюцца працы Міколы Шылы, Вітаўта Кіпеля і Вінцэнта Сьпічонка. Разнастайная падборка цікавых матэрыялаў сабраная таксама ў разьдзеле “Беларусіка” – пра дуду на эміграцыі, Алеся Гаруна і Якуба Коласа вачыма эмігрантаў.

На 95-я ўгодкі старшыні БІНіМу сп. Вітаўта Кіпеля падаецца ягоная грунтоўная біяграфія, якая разам зь біяграфічным тэкстам можа быць дадаткам да папярэдніх біяграфічных твораў сп. Кіпеля, і таксама агляд 3-га выданьня “Беларусаў у ЗША” – бэстсэлера беларускай эміграцыі.

Таксама надрукаваныя шмат іншых цікавых матэрыялаў, і кожны чалавек, зацікаўлены ня толькі ў гісторыі й культуры эміграцыі, але ў беларускай гісторыі й культуры наагул, знойдзе для сябе варты й цікавы артыкул і багацьце новай інфармацыі. Вялікі дзякуй рэдактарам і выдаўцам за гэтае вялікае, пад 1000 старонак, выданьне, што зь любоўю даносіць да нас біцьцё сэрцаў нашых папярэднікаў, беларусаў што апынуліся на чужыне ў выніку вайны, і жыцьцё якіх было непараўнальна цяжэйшым й драматычнейшым.

**Віталь ЗАЙКА**

## Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне пры падтрымцы Згуртаваньня Беларусаў Канады запрашае ўсіх беларусаў на

# 34-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі,

**якая пройдзе ў беларускім цэнтры ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі.**

***Інфармацыя па 34-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі:***

| | |
|---|---|
| Тэма: | Новыя мэты і задачы паўночна-амэрыканскае беларускае дыяспары ва ўмовах акупацыі Беларусі і вайны ва Украіне |
| Дата: | **3-4 верасьня** 2022 года |
| Месца: | **Беларускі цэнтар ў Саўт-Рыверы**, Нью-Джэрзі *(284 Whitehead Ave, South River, NJ 08882)* |
| Ганаровыя госьці: | **Івонка Сурвіла, Зянон Пазьняк** |
| Госьці зь Беларусі: | **Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская** |
| Кошт рэгістрацыі: | Кошт рэгістрацыі за 1 дзень - **$70**, за 2 дні - **$140**<br>Для сямейных параў: кошт рэгістрацыі за 2 дні - **$250**<br>Дзецям з 12-ці па 18 год - **$60** і **$120** адпаведна<br>Дзецям да 12-ці год - **уваход вольны**. |

Для ўдзелу ў Сустрэчы **неабходна зарэгістравацца** ў Арганізацыйным камітэце па тэлефоне ці праз імэйл. Таксама да сябраў Арганізацыйнага камітэту можна зьвяртацца па любых пытаньнях наконт Сустрэчы.

Кантакты Арганізацыйнага камітэту:

**Міхась Чаропка *charopka1986@yahoo.com, тэл. (929) 536-5571***
**Ганна Сурмач *surmacova@gmail.com, тэл. (347) 858-5335***

Да ўдзелу запрашаюцца ўсе беларускія суполкі, актывісты і арганізацыі ЗША і Канады.

**Парадак дня:**

***3 верасьня***

1:00 - Рэгістрацыя ўдзельнікаў
2:00 - Адкрыцьцё Сустрэчы
3:00 - Абед
4:00 - Дыскусія /Круглы стол (Тэма круглага стала: "Дзейнасьць беларускай дыяспары Паўночнай Амэрыкі ва ўмовах акупацыі Беларусі і вайны ва Украіне"
6:00 - Мастацкая частка/ Канцэрт

***4 верасьня***

10:00 - Працяг рэгістрацыі ўдзельнікаў, Багаслужба
11:30 - Адзначэньне 100-годзьдзя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
12:00 - Перапынак з пачастункам
1:00 - Дыскусія /Круглы стол (Тэма круглага стала: "Новыя мэты і задачы беларускай дыяспары Паўночнай Амэрыкі ва ўмовах акупацыі Беларусі і вайны ва Украіне"
3:00 - Барбекю і адпачынак на сьвежым паветры

Гатэль: **Hilton East Brunswick Hotel & Executive meeting center**
*(3 Tower Center Blvd, East Brunswick, New Jersey 08816)*

Для рэзэрвацыі гатэля зьвяртайцеся да сябраў Арганізацыйнага камітэту, бо ёсьць магчымасьць зрабіць агульную рэзэрвацыю (на некалькі нумароў) са зьніжкай.

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

А. Гаршкоў ...............70
У. Бялаблоцкі ............60

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня"Пагоня"**
***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

У. Бялаблоцкі .............30
А. Гаршкоў ................30

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***